ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 48 (1685) | Пятніца, 15 чэрвеня 1962 года | Цана 4 кап.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ПЛЕНУМЕ ЦК КП БЕЛАРУСІ

**12 — 13 чэрвеня адбыўся III Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел сакратары абкомаў КПБ, якія займаюцца пытаннямі ідэалагічнай работы і сельскай гаспадаркі, першыя сакратары гаркомаў, райкомаў КПБ, начальнікі абласных упраўленняў вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў, старшыні абласных аб'яднанняў «Белсельгастэхніка», начальнікі тэрытарыяльных вытворчых калгасна-саўгасных упраўленняў і парторгі абкомаў партыі гэтых упраўленняў, дырэктары абласных даследчых станцый, сакратары ЦК ЛКСМБ і першыя сакратары абкомаў камсамола, кіруючыя работнікі рэспубліканскіх арганізацый, творчых саюзаў, раду вну і школ.**

**Пленум разгледзеў пытанні:**

**1. Аб паляпшэнні работы па камуністычнаму выхаванню моладзі.**

**2. Аб выніках веснавой сяўбы і задачах па догляду пасеваў, правядзенню ўборкі і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў.**

**3. Аб ходзе выканання абавязацельстваў па павелічэнню вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі.**

**З дакладам «Аб паляпшэнні работы па камуністычнаму выхаванню моладзі» выступіў сакратар ЦК КП Беларусі В. Ф. Шаура.**

**У спрэчках па дакладу выступілі першы сакратар Мінскага абкома КПБ С. О. Прытыцкі, першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Л. Г. Максімаў, першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ А. А. Смірноў, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт Беларусі П. У. Броўка, першы сакратар Гомельскага абкома КПБ І. Я. Палякоў, сакратар Магілёўскага абкома КПБ Н. Л. Сняжкова, член Ваеннага савета, начальнік Палітупраўлення БВА В. А. Грэкаў, сакратар Гродзенскага абкома КПБ Л. П. Чагіна, міністр асветы БССР М. А. Халіпаў, сакратар Віцебскага абкома КПБ М. І. Пахомаў, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР В. І. Пятроў, міністр вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР М. В. Дарашэвіч, міністр унутраных спраў БССР А. Н. Аксёнаў, міністр культуры БССР Р. Я. Кісялёў, дырэктар Цімкавіцкай сярэдняй школы Капыльскага раёна З. І. Раманенка.**

**З дакладам «Аб выніках веснавой сяўбы і задачах па догляду пасеваў, правядзенню ўборкі і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў» выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, міністр вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў БССР У. Е. Лабанок.**

**У спрэчках па дакладу выступілі першы сакратар Віцебскага абкома КПБ С. А. Пілатовіч, сакратар Гомельскага абкома КПБ А. І. Варанцоў, старшыня выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Д. В. Цябут, рэктар Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута В. Д. Цімашынін, старшыня выканкома Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных П. А. Лявіцкі, начальнік упраўлення Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР С. І. Ціішкоў, першы намеснік старшыні выканкома Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных І. Д. Багроў, начальнік Слуцкага тэрытарыяльнага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення М. Ф. Пракапенка, першы намеснік старшыні выканкома Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Я. А. Арэхаў, старшыня рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка» Г. А. Філіпаў, парторг Гродзенскага абкома партыі па Гродзенскаму тэрытарыяльнаму вытворчаму калгасна-саўгаснаму ўпраўленню П. П. Дайнека, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў.**

**З дакладам «Аб ходзе выканання абавязацельстваў па павелічэнню вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі» выступіў сакратар ЦК КП Беларусі Ф. А. Сурганаў.**

**У спрэчках па дакладу выступілі старшыня выканкома Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных М. А. Кліменка, сакратар Магілёўскага абкома КПБ В. В. Прышчэпчык, старшыня выканкома Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных В. К. Луцкін, старшыня выканкома Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных М. П. Малочка, сакратар Мінскага абкома КПБ А. Ю. Дзенісевіч, старшыня выканкома Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных У. Б. Труноў.**

**З вялікай прамовай на пленуме выступіў кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі К. Т. Мазураў.**

**Па абмеркаваных пытаннях пленум прыняў адпаведныя пастановы.**

**На пленуме разгледжаны арганізацыйныя пытанні. Кандыдатам у члены Бюро ЦК КПБ выбран першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, міністр вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў БССР У. Е. Лабанок. Загадчыкам аддзела партыйных органаў ЦК КПБ зацверджан Г. А. Крыулін, загадчыкам аддзела адміністрацыйных органаў ЦК КПБ — Б. Ц. Шумілін.**

Васіль МАКАРЭВІЧ

## СЛУХАЙ, ЗЯМЛЯ!

**Бяром у рукі дужыя свае**
**мы**
**хуткасць рэактыўнага прагрэсу.**
**Сягоння сілы ў нас**
**і ўпартасці стае,**
**каб добрае расціць,**
**ліхое крэсліць!**
**Машыны сходзяць лавамі з канвеераў,**
**гудуць у печах доменных**
**канвертэры.**
**Зямля**
**арбіт спавіта абручамі,**
**зямля, нібы ў пярсцёнках абручальных.**
**І астраномы**
**ночы напралёт**
**сусвет трубою тэлескопа мацаюць.**
**Ракеты мчаць у космас напралом, —**
**давай кірунак ім,**
**планета-маці!**
**А на зямлі пагрозна і трывожна:**
**вайна не зацугляна,**
**не стрыножана,**
**маланкай блісне атамнай, як мячам, —**
**людзям нібы пад ногі хлыне вар:**
**...Вось-вось сарвецца**
**той малы каменьчык,**
**што коціць з гулам у гарах**
**абвал,**
**як жорнамі, ўсё на шляху размолвае,**
**нішто не ўратаваць,**
**як ні ратуй...**
**Зямля!**
**Хіба табе жыццё вымольваць!**
**Перахапі узнятую руку!**
**Няўжо дапусціш, каб ізноў у дыме**
**цябе узрывы трэслі,**
**нібы дыню.**
**Ты ж рушыла дзяржавы і граніцы,**
**змывала скалы**
**з крэмня і граніту**
**і зноў цяжарная**
**ўраджаем восені**
**вакол свае варочалася восі.**
**Хіба ж цяпер**
**ты кволая, бяссільная**
**з Кітаем,**
**з чорнай Афрыкай,**
**з Расіяй!**
**ЗЯМЛЯ,**
**рукою уладарнай, прагнай,**
**пад рэактыўны гром і гул плацін,**
**з нянавісцю,**
**што гарачэй за магму,**
**ліхое ўсё са свету ты змяці.**

# ПРАЦА, ХЛЕБ І МАРА

З запісной кніжкі пісьменніка

**Пятро ВАСІЛЕЎСКІ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»**

ГЭТА ЎСТАНОВА яшчэ не мае шыльды. Толькі нядаўна яе заказалі. Супрацоўнікі ўстановы жартуюць: «Не ў новай шыльдзе шчасце. Абы справы па-новаму пайшлі».

Гэта праўда. І хоць не вісіць яшчэ на дзвярах гэтай установы квадрат акантаванага чорнага шкла з залатымі літарамі, а дарога да яе ўжо надзейна пратаптана. З самай раніцы падкатваюць прапыленыя «газікі» да будынка гаркома партыі на плошчы Леніна, дзе на трэцім паверсе размясцілася Баранавіцкае тэрытарыяльнае вытворчае калгасна-саўгаснае ўпраўленне.

Новая ўстанова нагадвае сапраўды «палявы штаб», якому даручана кіраваць наступленнем на ўсім фронце калгаснай вытворчасці.

Таму не выпадкова працоўны дзень у новай установе пачынаецца не па раскладу. Яшчэ прыбіральшчыцы шуруюць швабрамі і пыласосамі калідоры і кабінеты, а на высокім ганку гаркомаўскага дома ўжо збіраюцца старшыні, аграномы, механізатары, што прыехалі з дальніх калгасаў, дымяць цыгаркамі і размаўляюць пра свае неадкладныя справы. Не дачакаўшыся, пакуль стрэлкі гадзінніка пакажуць роўна дзевяць, уваходзяць у гулкі, яшчэ пусты вестыбюль, падымаюцца па шырокай лесвіцы на трэці паверх, дзе ўздоўж калідора цягнуцца дзверы, на якіх прышпілены кнопкамі часовыя паперкі з надпісам ад рукі: «Галоўны аграном», «Сельскія спецыялісты», «Галоўны інжынер», «Галоўны ветурач»...

...Старшыня калгаса імя Кірава Аляксандр Піганові прыйшоў сёння ва ўпраўленне, крыху спазніўшыся, — ён паспеў ужо наведаць па сваёй справе іншыя раённыя ўстановы, але нічога там толкам не дабіўся. Вось і давялося ісці сюды... Шчыра кажучы, да начальніка ўпраўлення Аляксеева ён не вельмі і спяшаўся. Была на гэта прычына. Таму перад дзвярыма прыёмнай набраў поўныя грудзі паветра, цяжка выпусціў яго і, быццам даючы нырца ў халодную ваду, сігануў у прыёмную.

— Адзін? — спытаў ён у сакратаркі.

Яна падняла галаву ад стоса папер, строга паглядзела на Пігановіча:

— Адзін ён не бывае.

— А хто ў яго?

— Журналіст з Мінска.

— Тады я зайду! — ажывіўся Піганові.

Відаць, прысутнасць у кабінеце начальніка упраўлення сталічнага журналіста была яму на руку, і ён смела адчыніў дзверы:

— Можна да цябе, Міхаіл Сямёнавіч?

Аляксееў падняўся з-за стала:

— Заходзь, заходзь, галубок. Ты мне якраз вельмі патрэбен...

— І ты мне, — падыходзячы да стала, сказаў Піганові. — Во як патрэбен!

Ён паціснуў руку Аляксееву і журналісту, што сядзеў насупраць стала ў глыбокім крэсле з разгорнутым блакнотам на каленях. У такое ж самае крэсла апусціўся і Піганові.

— З раніцы, як апантаны, па начальству бегаю, — уздыхнуў ён.

— Ясна, — суха прагаварыў Аляксееў. — Зноў камбікорм?

— Свіней жа карміць трэба?! — усклікнуў Піганові і глянуў скоса на журналіста, быццам шукаў у яго падтрымкі. — Іх жа ў мяне ні мала ні многа — дзве тысячы! Паспрабуй пракарміць такую хеўру...

— Не вельмі выхваляйся, — кінуў Аляксееў. — Мог бы і больш гадаваць.

— А я і так звыш плана дзвесце галоў кармлю!

Аляксееў павярнуўся да журналіста:

— Бо інакш не ўбачыць ён камбікармоў. З наступнага квартала камбікармы будуць адпускацца толькі за звышпланавую здачу мяса.

— Стымул! — развёў свaімі вялікімі, моцнымі рукамі Піганові.

Аляксееў глянуў у паперку, што ляжала на стале перад ім.

— Ты ж пад гэты стымул ужо ўсё атрымаў за першае паўгоддзе.

— Няхай адпусцяць за кошт другога.

— Хітрун! А здаваць што будзеш?

— Здам!

— Калі здасі, тады і атрымаеш.

— А чым карміць? — крыху штучна ўздыхнуў Піганові і апусціў кучаравую галаву. — Ліха яго ведае! Б'ешся, як рыба аб лёд...

Аляксееў, адвярнуўшыся, каб не заўважыў Піганові, хітравата маргнуў журналісту, як бы гаворачы: «Ці бачылі вы такога артыста?»

— Слухай, Піганові! — нахіляючыся да яго праз стол, усклікнуў Аляксееў. — Хопіць прыкідвацца казанскай сіратою. Ёсць у цябе чым карміць. Ёсць! Ты проста спяшаешся ўсё выкачаць...

Піганові глянуў на Аляксеева спадылба:

— А не паспяшаешся, дык атрымаеш дулю!

— Бачыў ты яго, які хітры? — усміхнуўся Аляксееў. — Вось каб ты і ў астатніх справах так спяшаўся... Дакладвай!

На поўным, загарэлым твары Пігановіча здзіўленне:

— Аб чым?

— Ведаеш, не прыкідвайся.

Піганові непрыкметна кіўнуў у бок журналіста. «Ці трэба выносіць смецце з хаты?» — яскрава гаварыў гэты позірк.

Але Аляксееў, відаць, быў другой думкі.

— Што ты мне маргаеш, як дзяўчыне? Усё пасеяў?

— Па плану, — вінавата ўздыхнуў Піганові.

— Усе 69 гектараў?

— А ў мяне па плану 55!

— Не дуры мне галавы, — адрэзаў Аляксееў. — Вось перада мною план. І тут чорным па беламу...

Піганові не шкадуючы шапкі, якую ўвесь час трымаў у руцэ, ляснуў ёю па краю стала:

— Папера гэта, а не план! А папера, вядома, усё сцерпіць...

— Але ж пад гэтай паперай твой подпіс.

— Ну, распісаўся! Дык я ж у разліку на тарфянікі!

І далей Піганові, махаючы шапкай у такт сваёй звычнай, тэмпераментнай гаворцы, пераказаў, мабыць, ужо не першы раз расказаную гісторыю...

У мінулую восень на нарадзе ў райкоме партыі, на якой «утрасалі» планы на 1962 год, тагачасны сакратар райкома партыі Аляксандр Уласавіч Рак (ён цяпер парторг абкома партыі пры ўпраўленні) падбухторыў Пігановіча: маўляў, 55 запланаваных гектараў цукровых буракоў для такой наладжанай, перадавой гаспадаркі, як калгас імя Кірава — глупства!

— На твае шырокія плечы, Піганові, ношу трэба ўзваліць больш цяжкую, — сказаў сакратар.

— Праўда, праўда! — падтрымалі сакратара старшыні калгасаў. — Як хваліцца сваёй гаспадаркай, дык ён першы, а як браць абавязацельствы — апошні...

Вядомая справа, закранула за жывое гэтая размова Пігановіча.

— Буракаўборачны камбайн будзе? — адразу паставіў ён умову.

— Будзе! — паабяцаў сакратар. — І ўсё?

— Не, не ўсё. Няхай БМУ пракапае даўно абяцаны калектарны канал на маіх тарфяніках.

— Я зраблю гэта! — уставіў сваё слова дырэктар баваўнянага камбіната Сплендар.

Будаўніцтва камбіната падышло блізка да зямель калгаса імя Кірава. Цяпер камбінат і калгас былі суседзі. Для адпрацаванай вады камбінату патрэбен быў сцёк, які мог бы адначасова з'ўляцца і калектарным каналам для вялікага ўчастка тарфянікаў, дзе і вырашыў Піганові пасеяць цукровыя буракі звыш плана.

Так нарадзілася лічба 69 гектараў, якая і была ўзаконена планам. А далей пайшло не па плану... Вясна ў гэтым годзе запазнілася, ды да таго ж яшчэ паводзіла сябе кепска. У апошнія майскія дні тарфянікі ператварыліся ў гразкую багну, дзе ледзьве трымаліся гусенічныя трактары нават з пашыранымі гусеніцамі.

І тут яшчэ Сплендар падвёў. Не выканаў свайго абяцання — пракапаў сорак метраў канала і спыніўся. Ківае на падрадчыка: БМУ вінавата. Ох, ужо гэта БМУ! Каго яна толькі не падводзіла! Але пра БМУ размова наперадзе, а пакуль што Піганові «пагарэў» — нават калі тарфянікі і падсохнуць, то ўсё роўна сеяць на іх цукровыя буракі позна.

І зараз у кабінеце начальніка ўпраўлення Піганові вымушаны слухаць справядлівыя папрокі Аляксеева:

— Думаць трэба было! А цяпер усіх падводзіш. Усю зону! Ты ж увесь план ломіш...

— А ты яго не складаў, — робіць спробу Піганові зняць адказнасць з Аляксеева і тым самым змякчыць сваю віну.

— Не складаў, а выконваць павінен.

Гэта сапраўды так і ёсць: на гэты год да новай установы ў спадчыну перайшлі старыя планы, складзеныя яшчэ ў нетрах былых сельскагаспадарчых плануючых арганізацый.

— Гэта табе добрая навука на далейшае, — кажа Аляксееў, дакараючы Пігановіча. — Паспрабуй прыйсці да мяне ўвосень, сем раз не адмераўшы, перш чым раз адрэзаць — на парог не пушчу! А цяпер выкручвайся, як сам знаеш...

Піганові ўскінуў галаву:

— Пасею бручку. Таксама караняплод!

Аляксееў паморшчыўся:

— Параўнаў... Колькі ў цукровым бураку кармавых адзінак?

— Ну, дваццаць шэсць сотых...

— А ў тваёй бручцы? — Піганові маўчаў, быццам не ведаў. — Дзевяць сотых! Дык колькі ты павінен гэтага твайго караняплода пасеяць замест буракоў, падлічыў?

— Як-небудзь выкручуся, — махнуў рукою Піганові. — У мяне ж вікі зусім не было па плану. А я з Чаркаскай вобласці такую віку прывёз — хоць сам еш. Трыццаць гектараў засеяў. Бабовых мне па плану дзевяноста, а я сто дваццаць засеяў. Выкручуся!

Аляксееў павярнуўся да журналіста.

— Вы думаеце, чаму гэта ён на бабовыя налягае? Усё вельмі проста! Пусціць касаркі і скосіць сваю віку. Вось і ўвесь клопат. А каб цукровы бурак вырасціць, папацець трэба. Працаёмкая культура!

Піганові пакруціў галавою:

— Ох, і з'едлівы ж ты, Міхаіл Сямёнавіч! Вось жа пасадзілі на нашы старшынскія галавы начальнічка!

Журналіст, які ўвесь час маўчаў, слухаў ды матаў сабе на вус, страпянуўся:

— Вам не падабаецца?

Піганові хітравата глянуў на Аляксеева, як бы кажучы: «Цяпер ты ў маіх руках». І ўсім тулавам падаўся да журналіста.

— Не пры ім будзе сказана, — панізіўшы голас, вымавіў ён. — Бо яшчэ падумае, што Піганові гаворыць гэта з мэтай падхалімажу... Але хочаце верце, хочаце не — сварыцца мне з ім адна асалода. Раней жа як было? Усе цябе лаюць, а ты лепш маўчы, не падлівай масла ў агонь. Усе, каму ўздумаецца, падганяюць, а ты адзін выконвай. А зараз чаго ён так хвалюецца з-за маіх буракоў? Таму што справа ў нас адна. Ён за мяне, я за яго ў адказе. Кругавая парука, як у добрым баю і перамогі, і паражэнні, і турботы, і ўдачы ў нас з ім агульныя...

— А бурак ты мне ўсё роўна пасадзіш, — прыпыніў красамоўства Пігановіча крыху збянтэжаны Аляксееў. — Заўтра з галоўным аграномам да цябе прыеду — паглядзім, што ты там мудруеш. Я ж табе яшчэ ў пачатку года раіў — сей бурак на мінеральнай глебе, не чакай, пакуль прасохнуць тарфянікі. Раіў?

Піганові штосьці хацеў сказаць супраць, але ў кабінет увайшлі новыя наведвальнікі — рабочы дзень начальніка ўпраўлення працягваўся...

У вольную хвіліну ад наведвальнікаў Аляксееў сказаў, звяртаючыся да журналіста:

— Мабыць, вам Піганові здаўся гэткім старшынёй-кулачком. Гэткім калектывістам-індывідуалістам. У раманах на «калгасную тэматыку» такіх звычайна выводзяць як «складаныя характары». У канцы раманаў такія старшыні пад націскам сакратара партыйнай арганізацыі і праўлення абавязкова выпраўляюцца. Павінен вас расчараваць — Піганові не герой падобнага рамана. Перад вамі новы тып кіраўніка сельскай вытворчасці. Аддаючы даніну мінуламу, ён яшчэ і пакрычаць можа, і пастукаць сябе ў грудзі, і прасцячком прыкінуцца, калі гэта яму выгадна, а калі трэба, дык крыху і змахляваць не адмовіцца, але пры ўсім гэтым кіруе ён сваёй вялікай гаспадаркай з веданнем справы, знаходзіць выйсце з усялякага цяжкага становішча, прарыву, добра разбіраецца ў эканоміцы, фінансах, агранамічнай навуцы. Ён адзін з першых у раёне ўжыў танны і выгадны спосаб барацьбы з пустазеллем — гербіцыды. А гэта ж проста казачнае хімічнае рэчыва! Знішчае пустазелле, а культурным раслінам не толькі не шкодзіць, а нават памагае ім расці. Дык вось Піганові адразу «раскусіў» усю выгаду гэтай справы. Палічыце самі, ручная прапалка, напрыклад, аднаго гектара ільну каштуе калгасу 35 рублёў. А прапалка з дапамогаю гербіцыдаў — усяго пяць рублёў! Нашаму ўпраўленню ў гэтым годзе выдзелілі самалёт ЯК-12 для падкормкі і апырсквання пасеваў. Дык думаеце, хто першы даў заяўку на гэты самалёт? Піганові! Вось які ён. І яшчэ адна немалаважная рыса ў яго характары, яшчэ адна якасць яго як старшыні: ён уважлівы і чулы да калгаснікаў. Нядаўна праўленне калгаса прызначыла пятнаццаці членам сваёй арцелі пенсіі. Гэта добрыя людзі. Яны сумленна і самаадданна папрацавалі на карысць свайго калгаса. Тут і брыгадзір Іван Сямёнавіч Тугай, і палявод Разалія Даўмат, і калгасніца Анастасся Скрыпка... І вось калі людзям робяць дабро, дык і яны плацяць тым жа. І не выпадкова калгасная даярка Праскоўя Адамаўна Чарнамаз, пасля таго як праўленне прызначыла ёй пенсію, заявіла: «Пакуль рукі моцныя — не пайду з фермы!» Вось вам, мабыць, крыху суб'ектыўны, але праўдзівы партрэт Пігановіча. Ён, вядома, не анёл, толькі, мабыць жа, з анёламі было б вельмі сумна працаваць...

Усміхнуўшыся, Аляксееў устаў з-за стала, адышоў да акна і выглянуў на плошчу.

— Машына прыйшла. Трэба ехаць. Мне да змяркання паспець бы ў тро калгасах яшчэ пабыць... Калі хочаце — едзем разам.

Журналіст згадзіўся і яны накіраваліся да дзвярэй.

Але зазвінеў тэлефон і Аляксееў вярнуўся.

Званілі з Мінска. Намеснік міністра вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў Павел Фёдаравіч Барысаў цікавіўся справамі.

— Сяўба хоць і няроўна, — дакладваў Аляксееў, — але ідзе ў тэмпе. Спадзяёмся на злосць надвор'ю справіцца ў тэрмін. Не, на надвор'е мы не спісваем свае грахі, але ж вельмі яно ў гэтым годзе разбушавалася. Учора над некалькімі калгасамі нашай зоны прайшлі ліўні, ды яшчэ з градам. Дзе-нідзе з глебы павымывала зерне кукурузы, пабіла азімыя. Сёння галоўны аграном, ледзь пачало світаць, выехаў у гэтыя калгасы. Усходы цукровых буракоў добрыя. Днямі сам бачыў у «Перамозе» — залюбуешся! Хто раней адсеяўся, у тых ужо і кукуруза неблагая. Асабліва там, дзе сеялі зернем, пакрытым парафінам. Я гэтыя цудоўныя зярняткі сам прывёз з Іванаўскага раёна. Настрой? Калі шчыра, дык не так што б і кепскі. Сярэдні настрой. Азімыя добрыя, з мясам план уладкавалі. Вось толькі з малаком запарыліся. Гарадзішчанскі раён ідзе добра, нават дасць крыху звыш плана, а вось Баранавіцкі падводзіць... Ды ціснем як мага! Але ж няма адкуль цячы малаку — вельмі занядбаная ў гэтым раёне малочная справа. Будзем выпраўляць становішча. Чым займаюся зараз? Ды вось сабраўся ехаць у калгасы...

(Заканчэнне ў наступным нумары).

# З ЛЕКЦЫЯМІ-КАНЦЭРТАМІ НА ВЁСКУ

Беларуская філармонія завяршыла свой дваццаць чацвёрты зімовы канцэртны сезон. Чым жа будуць займацца летам яе творчыя калектывы?

Сімфанічны і народны аркестры рыхтуюцца да гастроляў па гарадах рэспублікі. Шматлікія эстрадныя брыгады і групы выступаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Разгарнула шырокую творчую дзейнасць і канцэртна-лекцыйнае бюро філармоніі. Па прыкладу мінулых год яно пачало абслугоўваць працаўнікоў калгаснай вёскі. Дзве групы беларускіх артыстаў ужо выехалі ў Віцебскую і Магілёўскую вобласці. Брыгады выканаўцаў узначальваюць лектары-музыказнаўцы Л. Ауэрбах і В. Бірзін.

Раней дасягненні беларускай музычнай культуры папулярызаваліся на вёсцы сіламі адных работнікаў філарманічнага лекторыя. Нацыянальная музыка была часам прадстаўлена ў канцэртах творамі выпадковымі, малазначнымі. Лектар часта ў выбары рэпертуару залежаў ад выканаўцаў, ад іх асабістых густаў і схільнасцей. Пры гэтым у канцэртныя праграмы, вядома, трапляла не ўсё лепшае і высокамастацкае. Вось чаму мы з прыемнасцю згадзіліся з прапановай праўлення Саюза кампазітараў БССР арганізаваць сёлета агульнымі намаганнямі прапаганду беларускай музыкі сярод сельскага насельніцтва. Удзел кампазітараў у выязных канцэртах толькі паможа ім больш поўна адчуць запатрабаванні слухачоў і напісаць новыя творы.

Сёлета значна пашырылася дзейнасць літаратурнай групы нашага лекторыя, у рэпертуары якой нямала цікавых і патрэбных тэм. Напрыклад, артыстка Г. Рыжкова падрыхтавала да 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Я. Купалы вялікую літаратурную праграму: «Янка Купала—пясняр беларускага народа». А для выступлення перад аўдыторыяй маладых слухачоў гэтая артыстка развучыла кампазіцыю на антырэлігійную тэму «Бога стварыў чалавек» (па творах беларускіх пісьменнікаў). Г. Рыжкова валодае своеасаблівым камедыйным талентам, што робіць яе выступленні асабліва цікавымі, захапляючымі.

Добра прымаюць гледачы літаратурна-музычны канцэрт «Баявое мастацтва эстрады» ў выкананні І. Лакштанава (баяніст А. Лапуноў).

Цікавую работу падрыхтавалі артысты В. Спіткоўская і М. Зорын. Іх літаратурная кампазіцыя па творах лаўрэата Ленінскай прэміі паэта Аляксандра Твардоўскага «Далёкае—блізкае» таксама добра прымаецца гледачамі.

З практыкі работы некаторых філармоній мы ведаем, якое выхаваўчае значэнне набываюць літаратурна-музычныя вечары на вёсцы. Беларусь улетку наведае група артыстаў Усерасійскага гастрольна-канцэртнага аб'яднання, якая правядзе цыкл канцэртаў «Гучаць песні». У гэты цыкл уваходзяць такія тэмы, як «Мелодыі нашых дзён» (арыі з опер, рамансы і песні савецкіх кампазітараў). «Песня—душа народа» і «Песні нашых сяброў» (аб творчасці кампазітараў Польскай Народнай Рэспублікі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі).

Ёсць і ў нашай філармоніі спроба стварыць аналагічныя канцэртныя праграмы. Так, група артыстаў, якую ўзначальвае музыказнаўца М. Крэйер, упершыню падрыхтавала да летніх гастрольных паездак па рэспубліцы дзве праграмы тэматычных вечароў—«Звіні, наша песня!» і «Савецкая аперэта». Гэта—лекцыі-канцэрты. Праграма першай з іх («Звіні, наша песня!») пабудавана ў выглядзе музычнай «аповесці», у якой выкарыстаны лепшыя ўзоры песеннай творчасці савецкіх кампазітараў. У тэматычнай канцэртнай праграме «Савецкая аперэта» шырока паказаны арыі, песні і дуэты з аперэт савецкіх кампазітараў.

У брыгадзе ёсць баяніст. Гэта дазволіць праводзіць лекцыі-канцэрты ў самых далёкіх раёнах рэспублікі і непасрэдна ў палявых станах.

Трэба сказаць, што ў нашай рэспубліцы па-ранейшаму не хапае клавішных інструментаў. Не варта ўжо гаварыць пра тое, што ў буйнейшых абласных гарадах Беларусі няма канцэртных раяляў, з-за чаго на перыферыі нельга наладжваць паўнацэнныя камерныя канцэрты і выступленні вядучых піяністаў-гастралёраў. Але ж дамагчыся, каб хоць у кожным раённым Доме культуры і найбольш буйных клубах былі звычайныя піяніна таксама чамусьці нельга. І гэта ў той час, калі мы маем ў Барысаве фабрыку піяніна. А там, дзе інструменты ўсё ж ёсць, яны знаходзяцца ў дрэнным стане.

Перад канцэртна-лекцыйным бюро філармоніі стаяць вельмі складаныя задачы. Іх вырашэнне залежыць не толькі ад намаганняў нашага творчага калектыву, але і ад належнай арганізацыі лекцый-канцэртаў.

**А. ДУДЗІН,**
**дырэктар-распарадчык канцэртна-лекцыйнага бюро Белдзяржфілармоніі.**



«ВОЖЫК» ПРЫЙШОЎ У ПОЛЕ!.. (Калгас імя Гастэла Мінскага раёна). Фота І. ШЫШКО.

Маляр зборачнага цэха Мінскага завода аўтаматычных ліній, ударніца камуністычнай працы Наталля Савіцкая. Пры добрай якасці работ яна выконвае свае зменныя заданні штодзённа на 120 працэнтаў.
Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

## СУСТРЭЧЫ З ГЛЕДАЧАМІ

У Мінску працягваюцца гастролі Маскоўскага тэатра імя Ленінскага камсамола. Гледачы праяўляюць вялікую цікавасць да кожнай новай пастаноўкі гасцей.

Днямі ў акруговым Доме афіцэраў пасля прагляду спектакля «Чамадан з наклейкамі» Дзм. Угрумава адбылася сустрэча моладзі і камсамольцаў Акцябрскага раёна з удзельнікамі спектакля. Пастаноўшчык п'есы, заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР С. Штэйн расказаў аб творчых планах тэатральнага калектыву, аб тым, як рыхтуецца да пастаноўкі п'еса «Беспасажніца» А. Астроўскага. Пастаноўку спектакля ажыццяўляе народная артыстка СССР С. Гіяцынтава.

Наведвальнікі тэатра пажадалі творчаму калектыву поспехаў у рабоце.

## НА СЕЛЬСКАЙ СЦЭНЕ

Спектаклем па п'есе ленінградскага драматурга Р. Назарава «Выпадковыя сустрэчы» пачаў у Крычаве свае летнія гастролі Бабруйскі перасоўны калгасна-саўгасны драматычны тэатр.

Тэатр пабывае ў Оршы, Полацку, Навагрудку, Гродна, будзе выступаць на сцэнах калгасных і саўгасных клубаў. У яго рэпертуары спектаклі «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Апошні крок» В. Зуба і інш.

Жыве ў вёсцы інтэлігент

# ГОСЦІ ЦІ ГАСПАДАРЫ?

І. ДАШЧЫНСКІ

Мне запомнілася адна размова з гаспадыняй, у якой я жыў на кватэры некалькі год назад. Запомнілася таму, што мне, настаўніку ў той час, было сорамна перад старой жанчынай. Не, не за сябе. За іншых.

Усё пачалося з лектара. Аднойчы, чытаючы даклад калгаснікам, ён называў мясцовых настаўнікаў інтэлігенцыяй вёскі.

— Хіба Надзя інтэлігент?! — раззлавана гаварыла гаспадыня пра сваю суседку, настаўніцу. — Ну, чым яна не такая, як я, старая і неадукаваная? Разумнейшая? Не відаць нешта. Разумны чалавек не стане біць паленам гусака, калі той зайшоў на чужы двор. Так стукнула яго, што ледзь не забіла. Ды хіба толькі гусака майго? Памятаеце, як пабіла і выгнала на тыдзень з дому свайго мужыка? А за што? За тое, што выпіў лішнюю чарку. Сама ж у два разы больш за яго выжлукціць. Бачыла на хрэсьбінах у Андрэіхі. Побач з ёю сядзела.

Я спрабаваў тады пярэчыць, даказваць, што гэта асобныя выпадкі і г. д., але ўсё было дарэмна. Гаспадыня для падмацавання сваёй пазіцыі прывяла яшчэ некалькі прыкладаў з жыцця настаўнікаў суседніх вёсак, і пераканаць яе было немагчыма.

Гэта было ў першыя пасляваенныя гады. Тады на ніве народнай асветы з-за недахопу кадраў працавала многа выпадковых людзей, якія даволі многа нанеслі шкоды аўтарытэту сельскага інтэлігента.

Цяпер, вядома, іншы час. Але праблема грамадскага аблічча сельскага інтэлігента не перастала існаваць.

Вёска Абруб Глыбоцкага раёна невялікая. Усяго якіх-небудзь 40 дамоў. Справа ад дарогі на ўзгорку — будынак сямігадовай школы. Недалёка ад яе цераз дарогу — сельскі Савет.

Дырэктар школы Уладзімір Аляксандравіч Яфрэменка працуе на гэтай пасадзе з 1955 года. Гэта сярэдніх год мужчына. У яго даўно не голены твар. Можа, ён і маладзейшы, чым выдае на першы погляд. На ім кіцель і брыджы армейскага крою.

— Жывём патроху, — гаворыць Уладзімір Яфрэменка.

«Патроху» я палічыў спачатку за сціпласць. Пазней пераканаўся ў адваротным.

Цікаўлюся грамадскай работай настаўнікаў.

— Як жа! Чытаем лекцыі і даклады, праводзім гутаркі...

— Дзе і хто праводзіў?..

— Адну хвілінку...

Але каб адказаць на гэтае пытанне, спатрэбілася значна больш часу.

— Яўгенія Мікалаеўна, — нарэшце звяртаецца ён да настаўніцы, — вы не памятаеце, хто з настаўнікаў «замацаваны» за свінафермай і хто за фермай буйной рагатай жывёлы?

Настаўніца чырванее, паціскае плячыма.

Нарэшце, калі з урокаў прыйшло яшчэ некалькі настаўнікаў, было ўстаноўлена, што за свінафермай «замацавана» В. Рычага, а за фермай буйной рагатай жывёлы — Н. Зялёнка і А. Піскунова. Пачынаю размаўляць з Нінай Іосіфаўнай Зялёнка.

— Калі апошні раз праводзілі гутарку?..

Яна здзіўлена ўзнімае на мяне свае блакітныя вочы, задумваецца.

— Здаецца, нядаўна? — спяшаецца ёй на дапамогу нехта з настаўнікаў.

— Так, нядаўна праводзіла, — згаджаецца Ніна Іосіфаўна. — Дакладна не магу сказаць калі, але нядаўна...

— Не памятаеце, аб чым была гутарка? — пытаюся я.

Яна не пакрыўдзілася за такое пытанне, бо сапраўды не памятала, аб чым гутарыла са свінаркамі.

— Здаецца, аб сакавіцкім Пленуме, — няўпэўнена гаворыць настаўніца.

«Ці памятаюць гэтую гутарку свінаркі?» — думаю я.

Разам з парторгам калгаса імя Кірава Аляксандрам Паўлавічам Буравым мы ідзём на жывёлагадоўчую ферму. Пакой адпачынку жывёлаводаў — невялікая прыбудоўка да кармакухні. Справа нікеліраваны ложак, ля сцяны — стол і лаўка. Ля ўваходу на сцяне — «Баявы лісток», выпушчаны яшчэ ў лютым.

Выяўляецца, што настаўнікі-агітатары вельмі рэдка наведваюць ферму. Гутаркі, якія тут іншы раз і праводзяцца, — агульныя па зместу і нецікавыя, не звязаныя з жыццём калгаса. Цялятніца, з якой мне давялося гутарыць, не памятае, аб чым расказваў агітатар. Ды гэта і зразумела, бо і сам ён не ведае.

Мікалай Якаўлевіч Прашкевіч, старшыня калгаса, на тэрыторыі якога знаходзіцца Абрубская сямігадовая школа, быў у канторы. Тут брыгадзіры паляводчых брыгад рабілі кароткую справаздачу аб ходзе веснавой сяўбы. Ва ўсіх заклапочаныя твары. З-за дрэннага надвор'я зрываецца план сяўбы.

— Далёка ад жыцця калгаса стаяць нашы настаўнікі, — гаворыць Мікалай Якаўлевіч. — Ніякай дапамогі ад іх, па сутнасці, мы не атрымліваем. Я маю на ўвазе іх арганізатарскую і выхаваўчую работу сярод калгаснікаў. Не ведаюць яны, якія пытанні і праблемы хвалююць нас. Амаль усе настаўнікі школы лічацца агітатарамі, а спытайце іх, колькі калгаснік атрымаў у мінулым годзе на працадзень — не кожны ведае. Я ніколі іх не бачыў у полі, на лузе — там, дзе працуе асноўная маса калгаснікаў. На жывёлагадоўчых фермах — яны таксама рэдкія госці.

А як жыве сельская інтэлігенцыя ў іншых вёсках? Можа, Абрубская сямігадовая школа — выключэнне?

Наступны дзень я правёў у вёсцы Ласіца. Як і Абруб — гэта невялікая вёска. Побач з сярэдняй школай — сельскі Савет, магазін, клуб і царква. Інтэлігенцыі тут многа: 15 настаўнікаў, аграном, эканаміст, заатэхнік, ветфельчар. З настаўнікамі я пагутарыў шчыра. Вось што яны мне расказалі.

Марыя Цімафееўна Карпава: — Працую настаўніцай першы год. Скончыла Віцебскі педінстытут. Я не згодна з тымі, хто сцвярджае, што настаўнікі вельмі перагружаны школьнымі справамі і ім не хапае часу для грамадскай работы.

— А ў вольны час чым вы займаецеся?

— Сумую... Раней у нашым клубе працавала мастацкая самадзейнасць, а цяпер яна не існуе. Загадчыца клуба мінулай восенню як паехала ў Віцебскае музычнае вучылішча на курсы, дык і цяпер там. Ключы ад клуба ў кінамеханіка. Тры разы ў тыдзень — кіно. Тады толькі клуб і адкрываецца. Вось закончу навучальны год і паеду адсюль. Хоць куды, толькі не ў вёску. Хопіць. Няхай іншыя папрацуюць тут. Калі не знайду работу па спецыяльнасці, пайду простай рабочай на Полацкі нафтабуд.

— Чаму б вам, маладым настаўнікам, не ўзяць кіраўніцтва самадзейнасцю на сябе?

Людміла Андрэеўна Дамашкевіч: — А навошта? Кожную суботу я езджу ў Глыбокае. Там Дом культуры, кінатэатр, танцпляцоўка. А тут што... Адзін клуб ды і той такі, што страшна зайсці ў яго.

Пётр Андрэевіч Зеляпуга, дырэктар школы: — Шчыра кажучы, у нас няма цеснага кантакту школы з сельскай моладдзю. Я, прызнацца, не ведаю сам, чаму так атрымліваецца. Бясспрэчна толькі тое, што нашы маладыя настаўнікі адчуваюць сябе часовымі гасцямі, а не гаспадарамі культурнага жыцця вёскі.

І ўсё ж, чаму так сумна жывуць маладыя сельскія настаўнікі М. Карпава, Л. Дамашкевіч і іншыя?

Сумна бывае чалавеку тады, калі няма чаго рабіць, і лепшыя лекі ад бяздзейнасці, як вядома, — у грамадскай працы. А яе ў Абрубе і Ласіцы непачаты край. Узяць хоць бы атэістычную прапаганду. У Ласіцы ёсць царква. У той час, як сельскі клуб на замку, дзверы яе кожную нядзелю «гасцінна» расчынены. Часта туды разам са старымі трапляе і моладзь.

Мне давялося пазнаёміцца з пратаколамі педсаветаў і кнігай загадаў Ласіцкай дзесяцігодкі. І што ж? Пытанне аб грамадскай рабоце настаўнікаў ні разу не стаяла на парадку дня. Школа мае план правядзення лекцый сярод насельніцтва навакольных вёсак. Але як ён выконваецца? Са 120 запланаваных лекцый прачытана толькі 29. З іх ніводнай на атэістычную тэму.

Уражанне пасля знаёмства з жыццём інтэлігенцыі Абрубскай сямігадовай і Ласіцкай сярэдняй школ застаецца вельмі сумнае.

— Так жыве і працуе інтэлігенцыя многіх вёсак, — спрабуе апраўдацца загадчык навучальнай часткі Ласіцкай дзесяцігодкі Я. Катовіч.

З ім можна пагадзіцца. Не трэба ездзіць па ўсіх сельскіх школах, каб пераканацца, што многія маладыя настаўнікі з нецярплівасцю чакаюць зручнага выпадку, каб назаўсёды пакінуць вёску. Гэта наводзіць на думку, што сельскіх інтэлігентаў неабходна саміх старанна выхоўваць, асабліва маладых.

У горадзе, пакуль будучы інтэлігент носіць у кішэні студэнцкі білет, яго выхаваннем займаецца інстытут, культурна-асветныя ўстановы і г. д. У вёсцы ж маладога спецыяліста чакаюць іншыя ўмовы. Трапляючы сюды, ён часам губляецца, не ведае, што рабіць. У горадзе ён браў ад жыцця ўсё гатовае, а тут, гаворачы словамі паэта, «надо вырвать радость у грядущих дней». Як вырваць у жыцця гэтую радасць, малады настаўнік ці аграном не ведае. Узяць хоць бы для прыкладу аднакамплектныя і двухкамплектныя пачатковыя школы, у якіх працуе адзін-два настаўнікі. Тут настаўніку, скажам прама, няма нават з кім параіцца, як, напрыклад, лепш правесці гутарку ў брыгадзе, арганізаваць мастацкую самадзейнасць у сельскім клубе і г. д. Гэтай справе яго нідзе не вучаць: ні ў інстытуце, ні ў раёне, куды прыехаў працаваць. На настаўніцкіх канферэнцыях пытанні культмасавай работы інтэлігента абмяркоўваюцца мімаходам, ад выпадку да выпадку. Мы ўжо не гаворым аб вытворчых нарадах і канферэнцыях такіх інтэлігентаў сяла, як аграномы, заатэхнікі, медработнікі і іншых, дзе пытанні іх грамадскай дзейнасці звычайна не абмяркоўваюцца.

Настаўнікі — найбольш шматлікі атрад сельскай інтэлігенцыі. Няма такой вёскі, дзе б не працаваў гэты нястомны сейбіт разумнага, добрага. Каб быць на ўзроўні патрабаванняў часу, ён павінен няспынна ўзбагачаць свае веды, пастаянна дбаць аб сваім духоўным росце. Для таго, каб уцягнуць сельскага інтэлігента ў плынь грамадскай дзейнасці, узняць яго эстэтычную культуру, настаўніку патрэбна дзейсная дапамога мясцовых партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый.

## ПРЫСВЕЧАНА ДРУЖБЕ НАРОДАЎ

«Знешняя палітыка СССР — палітыка міру і дружбы народаў» — так называецца кніжная выстаўка, падрыхтаваная днямі работнікамі Дзяржаўнай бібліятэкі імя Ул. І. Леніна. Выстаўка складаецца з раздзелаў «Міжнародныя адносіны і знешняя палітыка СССР», «Мірнае суіснаванне дзяржаў — ударнае патрабаванне жыцця», «Барацьба Савецкага Саюза за раззбраенне».

На выстаўцы шмат грамадска-палітычнай літаратуры — брашур, артыкулаў, фотаздымкаў. На асобным стэндзе — творы Ул. І. Леніна аб знешняй палітыцы Савецкай дзяржавы, артыкулы М. С. Хрушчова, прысвечаныя барацьбе савецкіх людзей за мір ва ўсім свеце.

## ВЕЧАР ЛІРЫКІ

Па жаданню чытачоў Гомельскай абласной бібліятэкі імя Ул. І. Леніна клуб сяброў кнігі, створаны два гады назад, рэарганізаваны ў клуб аматараў кнігі і кіно.

Днямі ў лектарскай зале кінатэатра імя Калініна клуб правёў сваё першае мерапрыемства — «Вечар лірыкі». Прысутныя з вялікай цікавасцю праслухалі гутарку настаўніка тав. Марозавай аб ролі і значэнні савецкай паэзіі ў справе камуністычнага выхавання моладзі.

Цёпла была сустрэта група маладых паэтаў Гомеля. Браніслаў Спрынчан, Ігар Паляшук, Анатоль Кандраценка, Барыс Гехтман прачыталі свае новыя лірычныя вершы, падзяліліся творчымі планамі.

У зале была арганізавана кніжная выстаўка «Савецкая паэзія». На ёй прадстаўлены творы А. Твардоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, С. Шчыпачова і іншых паэтаў.

## Беларускія тэлефільмы ў маскоўскіх перадачах

Вялікаму калектыву кіназдымачнай групы Мінскай студыі тэлебачання штодзённа даводзіцца рабіць па шэсць-сем кіназдымак. Найбольш цікавыя сюжэты ўключаюцца ў перадачы, якія ідуць для тэлегледачоў Масквы.

У пачатку гэтага года рэжысёр Ул. Карасёў і аператар А. Бычкоўскі пабывалі на шклозаводзе «Нёман». Аб працоўных буднях прадпрыемства расказана ў фільме «Звонкі пясок».

Нядаўна быў створан фільм-нарыс «Чалавек павінен бачыць». У ім з вялікай любоўю і цеплынёй расказана пра калектыў беларускіх урачоў-акулістаў, які ўзначальвае прафесар Т. Бірыч.

Гэтыя работы ўдастоены дыпломаў II і III ступені на Усесаюзным конкурсе тэлевізійных фільмаў 1962 года.

За апошні час знята некалькі фільмаў, якія будуць адпраўлены ўсім студыям краіны. Сярод іх: «Жыццё патрабуе», «Агні калгаснага сяла», «Аднойчы ў скверы», «На цаліне палескай» і іншыя.

КІНО

# У ПАЛОНЕ ТРАДЫЦЫЙНАГА

С. ПАЛЯКОЎ

Добрая назва ў гэтага фільма — «Дзень, калі спаўняецца трыццаць год». І пачатак яго таксама добры, прыгожы, шчыры.

Мокры асфальт. Ліхтары, прыглушаныя зыбкім туманам. Радасныя, захапляючыя словы пра новую сустрэчу, пра першае каханне, словы на ўвесь горад, на ўвесь свет... І вочы жанчыны. Задуменныя, спакойныя тым спакоем, за якім прытаіліся горыч, чаканні і надзея.

Гэты маленькі пралог хвалюе і кранае. З нецярплівасцю чакаеш, што будзе далей. А далей... Далей усё, «як у кіно», усё даўно знаёмае па кнігах, па многіх іншых фільмах.

У Святланы — галоўнай гераіні фільма — дзень нараджэння. Шчаслівы дзень, напоўнены радасным чаканнем і трывогаю, вялікай вераю ў будучыню. І вядома, у такі дзень нельга не азірнуцца назад, не прыгадаць мінулае. Ды і мінулае не стала яшчэ мінулым. Вось яно праразліва звоніць ля дзвярэй, баязліва ўсміхаецца. Наплыў... Перад гераіняй праходзіць доўгая чарада радасных дзён, поўных высокіх ідэалаў, мараў, сутычак з абывацельшчынай, з мяшчанствам, цудоўных парываў творчасці і сумных, бязрадасных, шэрых дзён сумненняў і трывог.

Парывістая, неспакойная студэнтка мастацкага інстытута Святлана і яе пануры муж, які жыве адным жаданнем — закончыць хутчэй дысертацыю і зажыць «як людзі жывуць». Ён не разумее імкненняў і захапленняў жонкі, якая вядзе гурток аматараў выяўленчага мастацтва на камбінаце. За мужа гарою стаіць маці, гэткая сучасная Кабаніха, якая замыкае шафу і хавае паліто нявесткі, каб тая не магла выйсці з дому. Вядома ж, Святлана і без паліто бяжыць на заводскі нядзельнік. Так намячаецца разрыў паміж маладымі мужам і жонкаю. Аднак колькі разоў амаль тое ж самае мы ўжо бачылі ў кіно?

А цяпер давайце паглядзім, якімі сродкамі дасягаецца ў фільме працоўная радасная атмасфера на нядзельніку, якая вярнула гераіні веру ў сябе, у свае сілы.

Ужо стала дрэннай традыцыяй у кіно: абавязкова суправаджаць працоўны энтузіязм людзей жыццярадаснай музыкай. Да яе кінематаграфісты па сутнасці прывязваюць эпізоды нядзельнікаў, суботнікаў, каб толькі «ажывіць» карціну. Ці не тое самае глядач бачыць у фільме «Дзень, калі спаўняецца трыццаць год»? У эпізодзе расчысткі заводскага двара чуюцца мажорныя гукі духавога аркестра, пад акампанемент якога прафесіянальны хор выконвае бадзёрую песню. Тут незразумела мітусяцца і бессэнсоўна пахаджаюць людзі, ва ўсім адчуваецца нейкая парадн асць.

Але вернемся да гераіні фільма. Дапусцім, што нядзельнік памог яе ўнутранаму перараджэнню. Цяпер, вядома, напрошваецца традыцыйны вывад. І стваральнікі карціны паспяшаліся яго зрабіць. Святлана канчаткова зразумела, што далейшы яе лёс звязаны з калектывам, што муж абыходзіўся з ёю несправядліва.

Усё гэта прапісныя ісціны, з якімі мы ўжо не раз сустракаліся на экране. Праўда, і прапісныя ісціны могуць цалкам пераасэнсоўвацца, калі мастак гаворыць пра іх па-свойму, натхнёна і палымяна. У адваротным выпадку атрымаецца толькі чарговая ілюстрацыя традыцыйнай тэмы.

Рэжысёру - пастаноўшчыку В. Вінаградаву, на жаль, не ўдалося пераасэнсаваць даўно вядомыя ісціны, ліквідаваць многія недахопы сцэнарнага матэрыялу, выйсці за яго вузкія рамкі. Яму не хапіла вопыту (гэта яго першы самастойны поўнаметражны фільм), а хутчэй за ўсё не хапіла смеласці, якая часта, крута ламаючы першапачатковую задуму сцэнарыста, вядзе да новых пошукаў, да сапраўды мастацкіх знаходак.

І вось, напрыклад, каб адцяніць складаныя ўнутраныя перажыванні галоўнай гераіні, на экране з'яўляецца гэткая шчаслівая пара: ён — традыцыйны кінаўдачнік, з прамяністай усмешкай і добрымі зморшчынкамі ля вачэй і яна — прыгожая, добрая і пяшчотная. У іх узаемаадносінах усё проста і ясна.

Святлана з маленькім сынам пакідае мешчаніна-мужа, пакідае яго назаўсёды. Мы знаёмімся з другім галоўным героем карціны — лётчыкам-выпрабавальнікам Захарам. Ці знойдзе Захар шлях да сэрца чужога дзіцяці, ці здолее стаць яму родным бацькам? Тут вялікае значэнне мае сцэна на стадыёне, дзе Захар і Борка строяць адзін аднаму камічна-жахлівыя міны. Борку падабаецца гэты вялікі чалавек з мужным адкрытым тварам, які ўсё ведае. Збліжэнне паміж дарослым і дзіцем адбываецца вельмі хутка. Добра рэжысёрскі пабудаваная і знятая сцэна пераконвае нас у гэтым.

Але ж мала паказаць, трэба яшчэ пераканальна і растлумачыць, чаму адбылося так, а не інакш. Міжволі прыгадваецца кінафільм «Сярожа». Узнікае зусім апраўданая аналогія: Захар — Борка, Карастылёў — Сярожа. Памятаеце, як пакутліва доўга і цяжка шукаў шлях да сэрца Сярожы Карастылёў. Уласна, гэтаму і прысвечаны цэлы фільм, адзначаны высокім талентам і вялікай праўдай пачуццяў. Такая аналогія не на карысць рабоце нашай студыі. Беларускія кінематаграфісты паказалі толькі правамернасць такога хуткага збліжэння Захара і Боркі, але пераканальна псіхалагічна тонка паказаць яго не здолелі. Адсюль узнікае нейкае ўнутранае недавер'е да далейшых адносін паміж сталым чалавекам і дзіцём.

У Захара цяжкая і высакародная прафесія. У небе яго падпільноўвае смяротэльная небяспека. Дома за яго баіцца і перажывае жонка. Ёй цяжка зразумець і паверыць, што работа Захара такая ж, як кожная іншая. Яна вельмі даражыць сваім шчасцем і, каб зберагчы яго, зберагчы каханне, гатова пайсці на ўсё, гатова расстацца з мужам, абы толькі не паддацца канчаткова страху за яго жыццё... Унутраны канфлікт Святланы, глыбіня яе перажыванняў і сумненняў — усё гэта праўдзівае і мастацкі абгрунтаванае. Але і тут стваральнікі фільма, на жаль, не пазбеглі штампу. Аўтар сцэнарыя, відаць, пабаялася «абмежаванасці» асабістых перажыванняў і разбавіла іх чыста «вытворчымі» матывамі. Вось у Святланы надыходзіць творчы застой, які павінен падкрэсліць неабходнасць ростані на пэўны час з Захарам. Такі «вытворчы» паварот, які стаў ужо традыцыйным, не толькі не паглыбіў, а, наадварот, спрасціў драматычнасць канфліктаў.

На галоўную ролю ў фільме студыя запрасіла таленавітую актрысу Р. Ніфантаву. Пасля Насці ў «Вольніцы» і Каці ў «Блуканні па пакутах» гледачы з цікавасцю чакалі, як удасца актрысе вобраз нашай сучасніцы. Стварыць цэласны, яркі характар Р. Ніфантавай было вельмі цяжка. У некаторых эпізодах (у тралейбусе, у лялечным тэатры, у бальніцы) яе ігра адзначана сапраўдным творчым агеньчыкам. Аднак актрыса па-сапраўднаму жыве на экране далёка не ва ўсіх эпізодах. Сцэнарый не даваў вялікіх магчымасцей для пошукаў, таму і не адбылося трапных знаходак.

Затое яе партнёру М. Лебедзеву (Захар) пашанцавала куды больш. У нашым кінамастацтве вельмі папулярным стаў вобраз лётчыка-выпрабавальніка, настолькі папулярным, што на экране пачынае складацца пэўны штамп такога героя. Гэта, бадай, сур'ёзнае папярэджанне кінематаграфістам, якія часам бачаць прыкметы сучаснасці хутчэй у цудоўных машынах, што ўзнімаюцца ў неба, чым у людзях, што водзяць гэтыя машыны. Добра, што пастаноўшчыкі фільма пайшлі па іншаму шляху, не вонкавымі адзнакамі імкнуліся падкрэсліць характар сучасніка. Для Захара кожны палёт — не подзвіг, не гераічная рызыка, а простая работа, якую ён выконвае мужна і сумленна. М. Лебедзеў іграе проста, стрымана, праўда, часам ён трохі «прызямляе» свайго героя, але ўвогуле вобраз Захара — гэта самая вялікая ўдача ў фільме.

Не пашанцавала рэжысёру ў рабоце над роллю Боркі (Косця Сяміжон). Натуральнасці паводзін хлапчука перад кінакамерай перашкаджаюць недзіцячыя фразы, якія ён вымаўляе. Напрыклад, яму, хлопчыку гадоў пяці, даводзіцца заяўляць, што ў жанчын не пытаюцца, колькі ім год. Відавочна, фраза разлічана на вясёлую рэакцыю залы, але ў вуснах дзіцяці — гэта безгустоўшчына, недалёкая ад пошласці.

В. Вінаградаву не ўдалося стварыць цэласнага і стройнага акцёрскага ансамбля. Кідаецца ў вочы рэзкі кантраст паміж галоўнымі героямі, характары якіх у той ці іншай ступені ўсё ж акрэслены, і астатнімі персанажамі, якія праплываюць па экрану, нібы цені, не прыцягваючы да сябе аніякай увагі.

Фільм атрымаўся вельмі няроўны, стылістычна не вытрыманы, залішне насычаны бытавымі дэталямі. Недахопы сцэнарнага матэрыялу і яго рэжысёрскага ўвасаблення не кампенсавала ні вельмі разумная і тонкая работа аператара А. Аўдзеева, які зняў многія кадры з вялікім густам, ні таленавітая музыка Д. Камінскага.

Трэба сказаць яшчэ аб адным. «Дзень, калі спаўняецца трыццаць год» — фільм на сучасную тэму. У чым жа яго сучаснасць? Два разы паказаны звышгукавыя прыгажуны-самалёты. Але ж гэта толькі рэчавая, вонкавая прыкмета часу. А ці ёсць у фільме галоўныя прыкметы часу — мастацкія вобразы людзей — носьбітаў эпохі? На жаль, дзеянне фільма магло з поспехам адбыцца гадоў трыццаць назад. Аблічча часу, сяк-так адлюстраванае ў вонкавых прыкметах, так і не было раскрыта ў характарах людзей.

Кінафільм — не тэатральны спектакль, над ім нельга працаваць пасля прэм'еры. Ён крочыць па экранах у сваім першародным варыянце. Таму вельмі прыкра, што першы фільм маладога і бясспрэчна таленавітага рэжысёра робіць уражанне даўно знаёмай карціны адразу ж пасля выхаду на экраны. Што ж, першы блін, як кажуць, заўсёды комам. Хочацца верыць, што ўжо ў бліжэйшы час кінастудыя «Беларусьфільм» створыць такія кінастужкі, якія з часам не толькі не страцяць, а будуць павялічваць свае мастацкія вартасці. Магчымасці для гэтага ёсць.

Вялікая група графікаў і жывапісцаў заканчвае Мінскае мастацкае вучылішча. Свае дыпломныя работы яны прысвячаюць сучаснасці. Дыпломнік Вячаслаў Пазняк піша дыпломную работу «Рыбакі поўначы». Будучы ў Карэліі на практыцы, ён напісаў шмат эцюдаў з жыцця рыбакоў.

Дыпломныя работы будуць абараняць студэнты А. Шабанаў, Г. Мазураў, І. Жураўская, С. Вярбіцкі і інш.

Да абароны дыпломаў засталося некалькі дзён. Яшчэ ёсць магчымасць паправіць некаторыя дэталі. Вось і сабраліся ля карціны «Рыбакі поўначы», каб даць сяброўскую параду дыпломніку В. Пазняку (справа), дыпламантка І. Жураўская і выкладчык Л. Асідоўскі.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# ТАЛЕНТ СТАЛЕЕ

Ю. КАНЭ

Пакуль кібернетыкі, незадаволеныя каварнай няўлоўнасцю з'яў літаратуры, будуць шукаць свае, матэматычныя спосабы яе даследавання, — для таго, каб наблізіць літаратуразнаўства да навук дакладных, — крытыкам, відаць, яшчэ доўгія гады прыйдзецца кіравацца перш за ўсё сваім густам і тым добрым старым метадам, які матэматыкі з не вельмі схаванай пагардай завуць інтуітыўным.

А між тым часам і сапраўды шкадуеш, што няма ў нашым распараджэнні дакладных формул і абсалютна аб'ектыўных крытэрыяў. Асабліва тады, калі раптам убачыш у творы ўжо добра знаёмага пісьменніка нешта прынцыпова новае, нейкі значны якасны зрух. Вось тут бы гэтае новае дакладна вызначыць, вымераць колькаснымі паказчыкамі. Не было б тады ні спрэчак, ні разыходжанняў у думках і ацэнках. І пісьменніцкі шлях да вяршынь дасканаласці быў бы куды лягчэйшым...

Можа гэтак і будзе некалі, але нешта вельмі ўжо адчувальна павявае сумам і маркотнай аднастайнасцю ад ідылічнай карціны машынізаванай і беспамылковай крытыкі, якую малююць нам тыя, хто лічыць універсальнымі матэматычныя метады і заканамернасці.

Гэтыя думкі з'явіліся ў мяне пад уплывам новых апавяданняў Івана Пташнікава «Алёшка», «Бежанка», «Алені», надрукаваных у № 4 часопіса «Полымя» за гэты год. Не таму, зразумела, што ў іх ёсць што-небудзь кібернетычнае, зусім не. А таму што яны ўяўляюцца мне новай і вельмі істотнай для маладога пісьменніка ступенькай творчасці.

Пройдзе час, і гэтыя апавяданні, відаць, увойдуць у новую кніжку І. Пташнікава. Але хочацца зараз жа, неадкладна падзяліцца тым пачуццём, тым задавальненнем, якое яны пакінулі.

Як чытачу, мне зусім лёгка сфармуляваць сваё агульнае ўражанне ад новых апавяданняў Івана Пташнікава, бо яно вельмі пэўнае: гэта сапраўды творы мастацтва. Чаму? А таму, што чытанне іх прыносіць эстэтычную асалоду.

Для мяне, як для чытача, знаёмага з усім, што надрукавана І. Пташнікавым, такое ўражанне новае і радаснае. Бо раней, у папярэдніх сваіх творах, асабліва ў апавяданнях, пісьменнік ніколі не мог узяць мяне пад сваю поўную ўладу: многае ў яго рэчах, нягледзячы на відавочную таленавітасць аўтара, выклікала прыкрасць, адчуванне фальшу, штучнасці. Што ж здарылася, у чым сакрэт той паўнаты эстэтычнага перажывання, якую прыносяць новыя апавяданні І. Пташнікава? Паспрабую адказаць на гэтае пытанне, прааналізаваць свае непасрэдныя, эмацыянальныя ўражанні.

Вось мы пачалі чытаць першае з трох апавяданняў — «Алёшка»: «Над зялёнымі жытнімі каласамі таўкуць мак і звіняць камары — цененька-цененька, як бы вецер увосень за акном у саломінку. Іх чуеш нават тады, калі ідзеш подбегам і пачынаеш задыхацца, — ці можа гэта нудны вячэрні звон засеў у вушах яшчэ там, за Сушкавам, у Бярозах, калі Алёшка спыніўся і доўга варажыў, кудою падацца: сцежачкай на Лаўкі ці ездавой дарогай, што вяла пагоркам, які скапалі снарадамі і здраталі гусеніцамі танкі, калі тут тыдні два назад цэлыя суткі ішоў бой...

Алёшка шлёпае босымі запыленымі нагамі па выбітай сцежцы, якая, як тая палоска, бялее ўзбоч шырокай парытай дарогі ля самага жыта. Ля Бяроз яно ўсё ляжыць, здратаванае, на зямлі, пасохлае і пабялелае, а тут, у лагчыне, яго, здаецца, і пальцам ніхто не крануў — высокае, густое, на ім толькі выплылі каласы і закрасавалі. Сашмаргні іх рукою — на далоні асядае белы, а то жоўты пылок і пахне...

Колецца ў ногі: на сцежцы жвірок і вострыя каменьчыкі... Алёшка не зважае на гэта: усю вайну, усе тры гады, ад снегу да снегу — босы».

Прачытаны толькі першыя некалькі сказаў, мы яшчэ не ведаем, пра што гэта апавяданне і што хоча сказаць у ім аўтар. Але мы ўжо адчуваем, як апавяданне нечым узбагачае нас, адкрывае перад намі нейкі асаблівы, нязнаны яшчэ свет. Гэта, відаць, і ёсць тая «заразлівасць», якую яшчэ Леў Талстой лічыў несумненнай адзнакай, што адрознівае сапраўднае мастацтва ад падробнага. Складаецца гэтая якасць, на нашу думку, з двух іншых — шчырасці, усхваляванасці аўтарскага пачуцця і ўмення пісьменніка ствараць ілюзію сапраўднага, нявыдуманага жыцця.

Пра першае многа гаварыць не трэба — пісьменніцкія шчырасць ці няшчырасць, усхваляванасць ці абыякавасць беспамылкова ўгадваюцца непасрэдным чытацкім успрыманнем. Што ж датычыць умення ствараць у мастацкім творы ілюзію жыцця, дык яно, як нам здаецца, можа быць дасягнута рознымі сродкамі, у залежнасці ад характару таленту.

У дадзеным выпадку ўражанне сапраўднасці таго жыцця, якое адлюстроўвае пісьменнік, ствараецца перш за ўсё дзякуючы відавочнаму багаццю запасаў «будаўнічага» матэрыялу, адчуванню абставін, у якіх адбываецца дзеянне, бачанню навакольнай прыроды. І. Пташнікаў бездакорна, да драбніц ведае ўсё, што ведаюць яго героі, ведае куды больш за іх. Таму ён надзвычай свабодна абыходзіцца са сваім матэрыялам. І чытач вельмі хутка і непрыкметна для сябе ўваходзіць у блізкі пісьменніку і яго героям свет, упэўнены ў яго верагоднасці.

Прырода звычайна займае ў творах І. Пташнікава вялікае месца, непараўнальна большае, чым у многіх іншых пісьменнікаў. Часта гэта асаблівасць І. Пташнікава становіцца недахопам, бо шматлікія пейзажныя апісанні ў яго загрувашчваюць твор, існуюць занадта самастойна, вельмі слаба звязаны з характарамі. Да таго ж у гэтых апісаннях шмат напышлівасці, непатрэбных «красивостей». У новых апавяданнях пісьменніка — у «Алёшцы» і асабліва «Аленях» — прырода таксама займае многа месца, але адчуванне пейзажнай перанасычана-

